„Барацьба за здаровую змену павінна быць пранікнута указаннем
Леніна на тое, што ёй, гэтай моладзі, прыдзецца скончыць і завяр-
шыць справу комунізма. Імення ёй прадстаяць яшчэ баі за комунізм,
і яна павінна сустрэць гэтыя баі здаровай, моцнай, са сталевымі
нервамі і жалезнымі цяглiцамі“.

(З пастановы ЦК ВКП(б) аб працы піонерарганізацый ад 2-IV 1932 г.)

# БЮЛЕТЭНЬ

## Н. К. А. З. БЕЛАРУСІ
## І ІНСТЫТУТА АХОВЫ ЗДАРОЎЯ
## мац. і дзяц. па аддз. „АЗД і П“

# АЗДАРАВІЦЕЛЬНАЯ ЛЕТНЯЯ РАБОТА

## № 1

МЕНСК 1935 г.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!



# БЮЛЕТЭНЬ

Н. К. А. З. Беларусі
і Інстытута Аховы Здароўя
мат. і дзяц. па аддз. „АДЗ і П"



# АЗДАРАВІЦЕЛЬНАЯ ЛЕТНЯЯ РАБОТА

## № 1

МЕНСК 1935 г.

## ЗМЕСТ: 1935 г. № 1



## SUMMARY 1935 № 1.

Str.



**Адказны рэдактар З. С. ЛЕВІН.**

Галоўлітбел № 3017. Заказ № 520. Тыраж 250

Менск, Друкарня ВКСГШБ.

# Пастанова № 448

## Совета Народных Камісараў БССР

*г. Менск* *1-га красавіка 1935 г.*

## „Аб выніках летняй аздаравіцельнай кампаніі сярод дзяцей у 1934 г. і аб мерапрыемствах на 1935 г.“

Совет Народных Камісараў БССР адзначае, што лагерная аздаравіцельная кампанія сярод піянераў і вучняў БССР у 1934 г. прайшла больш арганізавана, чым ў 1933 г. Поўнасцю выканан план ахопа дзяцей санаторнымі лагерамі, а таксама санаторнымі пляцоўкамі і дашкольнымі здраўніцамі па лініі НК Аховы Здароўя і план ахопа 20 тыс. піонераў масавымі лагерамі. Павялічана колькасць і палепшана якасць абсталявання лагероў, абсталяваны фізкультурныя гарадкі, пабудаваны крытыя сталоўкі, лепш пастаўлена культурна масавая работа сярод дзяцей.

Побач з гэтым СНК БССР адзначае наступныя недахопы:

а) скарачэнне па многіх лагерах, асабліва санаторных, устаноўленых тэрмінаў адпачынка дзяцей, з прычыны несвоечасовага прадастаўлення школьных памяшканняў;

б) несвоечасовае фінансаванне лагернай справы асобнымі арганізацыямі;

в) адсутнасць належна падрыхтаваных і прыстасаваных баз для прыёма і пропуска дзяцей, у сувязі з чым меліся перабоі і перашкоды ў нармальным, больш арганізаваным наборы і пропуску дзяцей.

Выходзячы з гэтага і ў мэтах палепшання ў 1935 г. пастаноўкі справы абслугоўвання дзяцей летнімі масавымі лагерамі, Совет Народных Камісараў БССР п а с т а н а ў л я е:

1. Устанавіць на 1935 г. наступны план правядзення аздаравіцельнай кампаніі:

а) ахоп масавымі лагерамі піонераў 24 тыс. чалавек, з тэрмінам прабывання 30 дзён;

б) ахоп санаторнымі лагерамі 4 тыс. піянераў і школьнікаў з тэрмінам прабывання 40 дзён;

в) ахоп санаторна-туберкулёзнымі пляцоўкамі 2 тыс. чал. піонераў і школьнікаў з тэрмінам прабывання 28 дзён;

г) ахоп дашкольнымі здраўніцамі 1 тыс чал. тэрмінам прабывання 30 дзён.

2. Агульны кошт фінансавання піонер-лагераў устанавіць 2.745 тыс. руб. з наступнымі крыніцамі фінансавання:

а) сродкі бацькоў і камсодаў—1.050 тыс руб.
б) сродкі профсаюзаў — 350 „ „
в) мясцовы бюджэт — 845 „ „
г) лекавы фонд — 150 „ „
д) сродкі інш. арганізацый — 350 „ „

3. Ускласці адказнасць за гаспадарчае і фінансавае кіраўніцтва піонерлагерам на НК Асветы і яго органы на мясцах, а па санаторным пляцоўкам, санаторыям туберкулезным пляцоўкам і дашкольным здраўніцам—на НК Аховы Здароўя і яго органы на мясцах.

4. Агульны размер выдаткаў па мерапрыемствам па лініі НК Аховы Здароўя (ахоп санаторнымі лагерамі, ахоп санаторнымі туберкулезнымі пляцоўкамі, ахоп дашкольнымі здраўніцамі) вызначыць у суме 1.431 тыс. руб., з якіх 1 млн. руб. за лік бюджэта НК Аховы Здароўя БССР і 431 тыс. руб.—за лік сродкаў бацькоў.

5. Абавязаць НК Асветы арганізаваць у поўных і няпоўных сярэдніх школах у час летніх канікул аздаравіцельныя школьныя плацоўкі і забяспечыць іх арганізатарскімі і педагагічнымі кадрамі, прапрацаваўшы падрабязны план правядзення гэтых мерапрыемстваў.

6. Абавязаць горсоветы і райвыканкомы асноўных гарадоў і раёнаў аказаць поўнае садзейнічанне па будаўніцтву і рамонту лагерных гарадкоў, у прыватнасці, аказаць дапамогу мясцовымі будаўнічымі матэрыяламі.

7. Прапанаваць НК Аховы Здароўя ў двухдэкадны тэрмін прадставіць СНК свае прапановы аб арганізацыі Усебеларускай здраўніцы юных піонераў.

8. Ускласці на народнага камісара Унутранага гандля БССР тав. Гурэвіча адказнасць па забеспячэнню летніх дзіцячых лагераў прадуктамі харчавання і промтаварамі, абавязаўшы тав. Гурэвіча з прыцягненнем НК Асветы,

НК Аховы Здароўя і ЦК ЛКСМБ, распрацаваць каляндарны план снабжэння дзіцячых лагераў.

9. Даручыць НК Асветы БССР—т. Чэрнушэвічу, разам з НК Аховы Здароўя тав. Сурта і ЦСПСБ, распрацаваць практычныя мерапрыемствы па сваёй лініі, забяспечваючыя належную пастаноўку высокаякаснай выхаваўчай работы ў лагерах у 1935 г. (кадры, культурнае абслугоўванне, самадзейнасць, дзіцячая літаратура, фізкультурнае развіццё і інш.) з тым, каб яна адпавядала асноўнай задачы лагернай кампаніі—аздараўленне і культурны досуг дзяцей.

10. Абавязаць НК Асветы ўлічыць усю маёмасць і будоўлі летніх лагераў, распрацаваць і ўнесці не пазней 15 ліпеня на разгляд СНК план будаўніцтва будынкаў для летніх лагераў на 1936 год.

11. Прапанаваць Менскаму, Гомельскаму і Віцебскаму горсоветам, з прыцягненнем грамадскіх арганізацый, адчыніць 1 студзеня 1936 г. начныя санаторыі, на 50 коек у кожным, для дзяцей лепшых ударнікаў вучобы і фізічна слабых, з тэрмінам прабывання кожнай змены 30 дзён, прадугледзіўшы ўсе неабходныя выдаткі ў бюджэтах горсоветаў на 1936 год.

Прапанаваць Менскаму, Гомельскаму, Віцебскаму горсоветам прыняць меры да частковага адчынення гэтых станоў ужо, пачынаючы з верасня месяца 1935 г., скарыстаўшы на гэтыя мэты эканомію па бюджэту.

Старшыня Совета Народных
Камісараў БССР **М. Галадзед.**

Кіраўнік спраў Совета Народных
Камісараў **І. Лук'янчык.**

# Вопыт работы санаторнага лагера імя Чэрвякова за 1934 г.

г. Менск (ст. Калодзішчы)

З. С. ЛЕВІН.
Нам. дырэктара Інстытута Ахматдзета.

Пастаноўка работы санаторнага лагера, згодна матэрыялаў г. Менска, а таксама па дадзеным іншых санаторных лагераў, заставіла далёка за сабой дасягненні мінулых гадоў і ўстанаўлівае новыя вехі па шляху якасных дасягненняў на гэтым участку працы па ахове здароўя дзяцей і падлеткаў. Мы пайшлі далёка наперад ад мінулай барацьбы за мінімум і вядзем упартую барацьбу за сапраўдны санаторны лагер.

Галоўнае ў рабоце гэтага года—гэта барацьба за якасць, і ў гэтым напрамку мы знайшлі шмат новых метадаў. Пры выкананні гэтых метадаў мы сустракалі не мала цяжкасцяў, якія прышлось перамагчы. Для канкрэтызацыі гэтых фактаў нам прыдзецца ў далейшым трымацца санаторнага лагера імя Чэрвякова (наша падвопытная станцыя), дзе намі непасрэдна праводзілася праца, нагляд і кантроль над усімі відамі аздаравіцельных мерапрыемстваў.

Санаторны лагер імя Чэрвякова на 150 ложкаў быў вызначан выключна для дзяцей малодшага школьнага ўзросту. Як відаць з табліцы, прыводзімай намі ніжэй, найбольшая колькасць дзяцей гэтага лагера выпадае на ўзросты 9, 10 і 11 год і параўнальна меншая група выпадае на ўзросты 8—12 год. Такім чынам аднароднасць псіхафізічнага развіцця дзяцей у даным лагеры была больш менш забяспечана. Санаторны лагер знаходзіўся ў нядаўна пабудаванай школе сямігодцы, у лясной мясцовасці на прыгорку, у адным кілометры ад станцыі чугуначнай дарогі, недалёка ад Менска. Занятыя намі класныя пакоі, досыць вялікія, светлыя, чыстыя ад усякога рода забруджвання, зусім адпавя-

далі свайму прызначэнню. Неабходна адзначыць, што колькасць дзяцей у некаторых пакоях правышала санітарныя нормы, і прыходзілась прыбягаць да цэлага шэрагу паправак, каб кампенсіраваць гэты дэфект—стала адчыненыя форткі, вынутыя з падветранай стараны шыбы і г. д. Адсутнасць ракі паблізасці была поўнасцю заменена душавой ўстаноўкай тыпу дэзкамеры з 4 душамі. Тэмпература гэтых душаў намі рэгулявалась у залежнасці ад паказання.

Санаторны лагер імя Чэрвякова за ўвесь летній перыяд прапусціў 305 дзяцей з адсевам у некалькі чалавек як у першай, так і ў другой змене. Большая палова дзяцей накіраваных у гэты лагер, былі окцябраты, якія ў некаторых выпадках працяжней старшых дзяцей перанасілі свае сумаванне па дому і з якіх кой каго прышлось невылячанымі адпусціць, альбо адасланць дамоў.

*Табліца № 1.* *)

**Дзеці па ўзростам.**

| Узрост | Першая змена | Другая змена | Усяго | ЗАЎВАГА. |
|---|---|---|---|---|
| 8 | 27 | 16 | 43 | |
| 9 | 34 | 37 | 71 | |
| 10 | 20 | 52 | 72 | |
| 11 | 53 | 32 | 85 | |
| 12 | 18 | 12 | 30 | |
| 13 | 1 | 2 | 3 | |

*Табліца № 2*

**Соцыяльны склад.**

| ДЗЕЦІ | Першая змена | Другая змена | Усяго | Заўвага |
|---|---|---|---|---|
| Рабочых . . . | 113 | 102 | 215 | |
| Служачых . . . | 25 | 35 | 60 | |
| Сам. прамкаап. . . | 4 | 4 | 8 | |
| Студэнтаў . . . | 7 | 6 | 13 | |
| Іншых . . . | 4 | 8 | 12 | |

*) Гэта табліца, як і ўсе наступныя, прыводзімыя намі, узята з матэрыялаў санаторнага лагера імя Чэрвякова.

Часта маткі былі вінаваты ў недастатковай вытрыманасці з боку дзяцей і пры наведванні лагера пасля значнага адсутнічання па малейшаму поваду бралі іх дамоў, а потым сумесна з дзіцем шкадавалі аб сваім неасцярожным учынку.

Як у першай, так і ў другой змене, дзеці прабылі па 40 дзён—перыяд даволі доўгі і зусім дастатковы, каб дзеці акліматызаваліся, адпачылі і зусім паправіліся. У гэты час перад намі стаяла даволі цяжкая задача—захаваць дзяцей ад розных інфекцый, даць дзецям усе віды аздаравіцельных мерапрыемстваў, забяспечыць іх адпачынак культурна-масавым абслугоўваннем і самаабслугоўваннем.

На застанаўліваючысь цяпер на эфектыўнасці гэтага лагера, аб чым мы яшчэ пагаворым, нам неабходна загадзя застанавіцца на тых метадах, якія забяспечылі гэту эфектыўнасць.

На першым плане стаіць адбор дзяцей па ўзрастоваму прынцыпу. Менск меў тры лагеры і размяркаваў дзяцей на малодшы, сярэдні і старшы школьны ўзрост. Мы мелі пераважна дзяцей першага школьнага ўзросту, аднастойнага і па сваім біалагічным асаблівасцям, па сваёй параўнаўча аслабленай энергіі роста і крывой вазе, і больш рухомага і ўзбуджанага па свайму характару. Такім чынам, нашай задачай было гігіенічна рацыяналізаваць лішнюю затрату энергіі, стварыць у санаторна-лагерным жыцці такую павышаную зацікаўленасць да ўсіх маментаў рэжыма, якая-бы абмяжоўвала лішнюю суетлівасць у рухах і сумесна з гэтым дала бы карыснае і здаровае прымяненне накопленай энергіі.

Для таго, каб забяспечыць вышэйпаказанае становішча нам прышлось зрабіць наступны крок, а іменна, размеркаваць атрады па звенням у залежнасці ад стану здароўя дзяцей. Такім чынам, мы ў кожным атрадзе мелі звяно найбольш здаровых і ўстойлівых дзяцей, звяно найбольш слабых і мала ўстойлівых дзяцей, а таксама сярэдняе звяно. Такое размеркаванне дала нам магчымасць мець адзін рэжым для ўсяго звяна без усякіх ухілаў і супроцьпаказанняў у адносінах да скарыстання сонца, вады, фізпрактыкаванняў і г. д. Гэта значна аблегчыла работу важатага, ліквідавала путаніну, каму што можна, каму нельга; гэта ўцягнула і канцэнтравала дзяцей, рухомых аднымі і тымі-жа інтарэсамі на выконваемыя імі заданні; гэта, нарэшце, дала магчымасць

рацыянальна планаваць розныя віды грамадска-карыснай працы без шкоды для здароўя дзяцей. Перавага такога размеркавання дзяцей не патрабуе асаблівых даказацельстваў; яна выцякае з саміх умоў жыцця санаторна-лагернага быта дзяцей. Больш складаным з'яўляецца дача канкрэтных паказанняў для такога размеркавання, бо іх вельмі многа, і пагэтаму можа быць няточнасць. Асновай для нашага размеркавання было фізічнае развіццё піонера; тое, што вышэй „М“ *) пападала ў першае звяно, тое што блізка да „М“—у другое звяно, а то, што было ніжэй „М“—у трэцце звяно. Акрамя таго, нам прыходзілась улічваць рад функцыянальных і арганічных недахопаў як з боку сэрца, лёгкіх, упітанасці дзяцей, так і з боку яго нервовай сістэмы. Відавочна, комплекс даволі складаны, але працяжны нагляд заўсёды дае магчымасць карэкцыі.

Наступным важным момантам з'яўляецца памяншанне склада кожнага атрада да 35-40 піонераў (яшчэ лепш давесці колькасць атрадаў да 25-30) з той мэтай, каб важаты мог удзяліць больш увагі кожнаму дзіцяці свайго атрада. Мы нашых 150 дзяцей падзялілі на 4 атрады па 35-38 чалавек у кожным. Неабходна адзначыць, што ў нас да гэтага часу ў выхаваўчай рабоце санаторнага лагеру існаваў масавы падыход да дзяцей, а між тым аслабленае дзіця патрабуе больш дыферэнцыраванага індывідуальнага падыхода.

Каб забяспечыць дыферэнцыраваны падыход да дзіцяці з боку важатага неабходна: 1. Давесці да нормы мінімум колькасны склад дзяцей у кожным атрадзе. 2. Забяспечыць магчымасць належнай падрыхтоўкі і сасрэдаточанасці ў рабоце важатых, шляхам прадастаўлення ім вольных гадзін у часы масавай працы выкладчыка па фізвыху, педагога, таксама шляхам дачы ім выхадных дзён, якія ў лагерах на жаль не практыкуюцца. 3. Прадаставіць санаторным лагерам такі кваліфікаваны склад важатых, якія бы ўлічылі важнасць участка сваёй працы і адчувалі бы сваю адказнасць за кожнае дзіця.

Выходзячы з гэтых меркаванняў, лагерная праца ў другой змене вялась іменна атрадная і звеннявая, а не агуль-

*) „М“ Медыяна, або сярэдняе фізічнага развіцця дзіцяці вызначанага ўзросту, пола і г. д.

на-лагерная. Выключэннем з гэтага былі масава-лагерныя часы. Кожны атрад праводзіў сваю працу ў асобна адведзеным месцы: на лужайцы, двары, у лесе, сталоўцы, клубным пакоі—на фіксаваным месцы. Гэты парадак работы даў магчымасць фіксаваць увагу важатага і піянераў на сваёй рабоце. Гэты метад даваў магчымасць важатаму праявіць сваю ініцыятыву, сваю здольнасць, свой ударны труд у справе аўладання піянерскім калектывам.

Цесная ўвязка працы важатага з урачом з'явілась значным фактарам, забяспечваючым максімальны эфект папраўкі піянераў-дзяцей другой змены. Агляд дзяцей у прысутнасці піянер-працаўніка, дача псіхафізічнай і санітарнай ацэнкі дзіцяці, кароткае апытанне дзіцяці аб яго скаргах,— усё сумесна ўзятае знаёміла важатага з індывідуальнасцю гэтага дзіцяці, увадзіла яго ў круг яго недахопаў, звязаных з яго фізічнай аслабленасцю, і давала важатаму магчымасць уключыцца ў рад мерапрыемств па выпрацоўцы або карэкцыі гэтых недахопаў. Яшчэ большае значэнне ў нас атрымалі паўторныя беглыя агляды ўрача са ўзважаннем дзяцей кожную дэкаду ў прысутнасці піянер-важатага, с апаведамленнем атрыманых вынікаў на дошцы спаборніцтва. На першай дэкадзе першай вышла Надзя К. з атрада „Молакава“, і значная дабаўка вагі ўсяго атрада;убыль вагі і вага без змены атрымаліся толькі у 5-х. Вынікі агляда падрабязна абгаварваліся на вытворчай нарадзе, дзе была дана ацэнка метадам працы важатай Н. К., яе атраду і агульнаму ўкладу яе работы.

На першым месцы была адмечана тая арганізаванасць і супакойствіе, якое была ўнесена важатай у сваёй рабоце. Падбор планавых заняткаў быў ею дастаткова прадуман, праналізаван і ўзгоднен з урачом. Яна не выходзіла з рамак устаноўленага працягу, рабіла своечасова належныя перапынкі і старалась, каб ўвесь час трымаць зацікаўленасць дзяцей да правадзімай працы. Асабліую ўвагу яна прысвечвала найбольш фізічна аслабленому звяну. Ціхія і настойлівыя гульні на вольным паветры, шашкі, пінг-понг і інш., чытка мастацкіх твораў адыгрывалі падчас найлепшую ролю для гэтага звяна.

На другой дэкадзе атрад „Молакова“ астаецца моцна на сваім месцы: з 34 дзяцей добра паправілісь 29, атрад „Круп-

скай“ яе даганяе, атрад „Сталіна“ вышаў з прарыва, а ў хвасце цягнецца атрад „Шмідта“. Мы сумесна з усімі важатымі разабралі вынікі іх поспехаў і неўдач, прааналізавалі з імі дзяцей, якія мелі мала поспехаў, або зусім іх не мелі; мы далі кансультацыі працуючаму ўрачу і важатым аб метадах далейшага ўздзейнічання на апошніх, і такім чынам кожны піонер-працаўнік канкрэтна адчуў вынік свайго творчэства, уразумеў памылкі, якія былі прычынай яго няўдач.

Мы прыводзім табліцу сярэдняй дабаўкі вагі ў першай і другой змене. Маючаяся розніца паказвае больш чоткую работу другой змены.

*Табліца № 3*

**Дабаўка вагі.**

| | Першая змена | Другая змена | Заўвага |
|---|---|---|---|
| Не вышэй 1 кгр. . . | 78 дзяцей | 46 дзяцей | |
| Ад 1—1,5 „ . . | 28 „ | 37 „ | |
| „ 1,5—2 „ . . | 9 „ | 35 „ | |
| „ 2—3 „ . . | 4 „ | 13 „ | |
| Вышэй 3-х кгр, . . | „ „ | 4 „ | |

Гэта табліца з вялікім зрухам у бок павялічэння ваг у другой змене падцвярджае правідловасць метада цеснай увязкі работы ўрача з выхавацелямі і падкрэслівае сцяржнёвую роль урача ва ўсей медыка-педагагічнай рабоце санаторнага лагера.

Больш паглыбленая работа гэтага году, павышэнне якасці абслугоўвання піонера, слабага дзіцяці, набліжэнне да дыферэнцыраванага абслугоўвання, да ўсебаковага ахопа індывідуума дзіцяці, высунула шэраг вузкіх месц у нашай рабоце. Асабліва востра стаіць пытанне аб дзецях псіханеўроціках, дзецях дрэнна або цяжка паддаючыхся педагагічнаму ўздзейнічанню. Мы гэтакіх дзяцей да гэтага часу слаба ўлічвал', між тым гэтакія дзеці, часта зрываюць часы адпачынку, б'юць і абіжаюць іншых дзяцей, становяцца абузай і дэзарганізатарамі жыцця ўсяго калектыва. Пры гэтым, самыя гэтыя дзеці нічога ад лагера не атрымоўваюць. У гэтай агульнай масе, дзе атсутнічае індывідуальны падыход да псіханеўро-

цікаў, яны ў масе часта не растваракоцца, не выраўніваюцца і не пазбаўляюцца ад сваіх псіхапатычных асаблівасцяй, часта не толькі не прыбываюць у вазе і не папраўляюцца, але, наадварот, трацяць у вазе, становяцца абузай усяго калектыва, і канчаецца або самавольным уходам, або выключэннем іх з лагера. Гэтыя дзеці патрабуюць для сябе асаблівага вырашэння пытання, аб іх трэба сур'ёзна падумаць пры планіроўцы лагернай кампаніі наступнага году. Для ілюстрацыі прыводзім некалькі прыкладаў з жыцця нашага санаторнага лагера. У істэрычнай дзяўчынкі Ф. А. пачынаецца мнімы сярцовы прыпадак, пры каторым яна точна капіруе відзены, магчыма дома, такі-жа прыпадак; пры гэтым уся спальня ў 20 дзяцей падымае вой, у астатніх палатах становішча ажытацыі і эфекта ахапляе буквальна ўсю масу дзяцей і асобна моцна патрымліваецца істэрычнымі дзяцьмі. Урач і сястра не ведаюць, каму раней аказаць сваю дапамогу. Якраз у гэты вечар мне прышлося быць у лагеры і актыўна ўмяшацца. Мне ўдалась абнаружыць сутнасць саздаўшагася становішча, уздзейнічаць адразу і энергічна, і агульны перапалох як та адразу патух. Але пасля гэтага вострага перажывання дзеці доўга не маглі супакоіцца і толькі позна ноччу дзеці заснулі. На заўтра Фэл. была ўдалена з лагера—лагер супакоіўся. У нас была серыя гэткіх дзяцей: Іван., Цоф., Зял., магчыма назваць больш дзесятка, ды іх не мала было і ў другіх лагерах. Пытанне аб іх як-та слаба ставілася, іх цярпелі, а яны часта перашкаджалі рабоце, а самі мала папраўляліся.

Але нараду з гэтымі няўдачамі ў вобласці вырашэння пытання, як у агульнай масе абслугоўваць дзяцей псіханеўроцікаў з рознымі неўратычнымі ўхіламі, мы не можам абыйсці маўчаннем і значны поспех, які намі наглядаўся ў санаторным лагеру імя Чэрвякова над некаторымі такімі жа дзяцьмі. Самым, пажалуй, бліскучым прыкладам можа паслужыць дзіця Зіглер, 9 год, які на працягу 6-7 год упарта адмаўляўся і не есць мяса. Як удалося нам высвятліць з расказа бацькоў, Зіглер у прадашкольным узросце страдаў неўрапатычнымі ванітамі, пры чым, як відаць, у гэты час у яго вырабатаўся ўмоўны рэфлекс—ваніты пасля мясной стравы, асабліва пасля нямолатага мяса; з таго часу ніякія ўгрозы з боку бацькоў ні іншыя віды

ўздзейнічання не змаглі памагчы ўдручаным бацькам. Зіглер першы раз жыве ўне дома і ў такім вялікім калектыве. І тут, як кажуць, „звяршылася цуда“. Гэта яго асаблівасць звярнула на сябе ўвагу ўсяго кіруючага склада лагера, і тое, што гадамі і стараннямі бацькоў не ўдалось прэадалець, удалось выращыць з пераходам дзіцяці на харчаванне ў калектыве з прымяненнем соцыяльнай формы ўздзейнічання. Пад націскам ударнікаў абедаючых дзяцей за адным сталом з Зіглерам і з іх жадання быць у першых радах за вельмі добрыя паводзіны, Зіглер перамог сваю прывычку і пачаў есці мяса, не адмаўляючыся ні ад якіх блюд.

Пазней Зіглер аказаўся самым здольным дзіцем, мастаком, апавядальнікам. Яго выступленні мелі бурны поспех не толькі сярод дзяцей і бацькоў, але перавысілі ўсякія чаканні выхавацеляў і ўсяго лагернага складу.

Аб тым, што неўрапаты звычайна здольны і сваей экспансіўнасцю захапліваюць дзіцячую масу, часта з'яўляюцца правадырамі і стала шукаюць задавальнення ў стварэнні ўвагі да сваей асобы—факт ужо даўно вядомы. Нам толькі застаецца адзначыць, што ў лагерным жыцці маецца выдатны сродак, якім трэба толькі ўмела карыстацца, і ў некаторых выпадках яно не адмовіць даць бліскучыя вынікі Гутарка ідзе аб мастацка-творчай рабоце, у поўным і шырокім сэнсе гэтага слова, якая можа аказваць вялікую жыццёвую паслугу, як масавым, так і санаторным лагерам.

Сублімацыя, або пераключэнне, дзяцей наогул і неўрапатаў у прыватнасці, на ўсякія віды мастацка-выконваемых прац, з'яўляецца адным з важных метадаў выхавання і апрацоўкі дзяцей у бок яго нармалізацыі. Усякія віды і формы мастацкай работы карысны з двух пунктаў погляду для дзіцяці. Першае—гэта тое, што ваплашчаючы ў мастацка яркія вобразы асноўныя ідэі комуністычнага выхавання, прадстаўляе іх у блізкай, зразумелай для дзяцей форме: спевы, мастацкае слова, карціны, спектаклі кінофільмы—лагер надае асабліва дзейную сілу дзіцячаму ўспрыманню ідэй у барацьбе за соцыялізм, інтэрнацыянальную салідарнасць, антырэлігійнае мірапаніманне, да абароны соцыялістычнай радзімы. З другога боку, выразная перадача адразу заклікае дзіця да эмоцый, да адчування, напру-

жае яго ўвагу, стварае павышаную зацікаўленасць, знішчае ўсякіе віды нуды. Эмацiўнай акраскай любых здарэнняў, вобразнай перадачай, мастацкім афармленнем, мы часта аўладаем любым дзіцячым калектывам. Калі, у дадатак да гэтага, дабіцца ад педагогаў і выхавацеляў стала—любоўных, уважлівых, выключна супакойных, роўных, але сумесна з тым і трэбавацельных адносін да дзяцей, мы можам дабіцца і перараджэння групы неўрапатаў, псіханеўротыкаў да непазнаваемасці, аб чым сведчыць вышэйпрыведзены прыклад і дзесятак іншых Зіглераў, аб каторых тут не ўспаміналася.

Ці не з'яўляецца выдатным нагляд урача лагера таварыша Касцюковіч, якая звярнула маю ўвагу на тое, што некаторыя неўрапаты ажыўлялісь да масавага часу, яны аказваліся даравітымі дэкламатарамі, спявакамі, акцёрамі, выконвацелямі ўсякіх п'ес, танцорамі, скрыпачамі. Галоўнае, гэта тое, што тут аказалася іх родная стыхія, тут яны ажыўляліся, к гэтым святам яны з гатоўнасцю далучалісь падрыхтоўвалісь, тут яны ўваходзілі ў сферу жыцця радаснаснага, здаровага дзяцінства; гэта іх лячыла ад усіх шматлікіх хвароб і хваравітых пераж̌ыванняў і гэтую частку работы прыходзіцца нам асабліва выпяцiць.

Для таго, каб мець ўражанне аб штодзённай працы лагера, я дазволю сабе прывесці выняткі некаторых дзён з лагернага дзённіка, які вёўся нашым педагогам, таварышам Каральковым. Дзеннік гэты страдае многімі дэфектамі, але праўдзівасць перадачы з'яўляецца самай большай яго вартасцю, якая акупае ўсе астатнія.

### Выняткі з лагернага дзённіка.

20-VII. Прыбыла новая змена ў 150 дзяцей. Узрост у аснаўным 9, 10 і 11-годкі. Некалькі крокаў за парадна-ізукрашанай зеленню аркай, як узбуджаны натоўп малышоў адчуў арганізуючы дух лагера. Успацеўшыя, запыленыя з дарогі, яны адразу кінуліся да насоса студні, каб напіцца халоднай сырой вады. Гэтае жаданне было адразу прыастаноўлена бязлітаснымі довадамі важатых—„сырую ваду піць нельга", і тут жа была падана астужаная кіпячоная вада.

21-VII. Навізна абставін, узвышаная зацікаўленасць да ўсяго падымае дзяцей вельмі рана з ложка, але прысутнасць свайго таварыша важатага, які тут-жа побач ляжыць, прыкідваючыся, нібы ён спіць, сцясняе дзяцей, не дае ім шумець, яны ляжаць, як умоўлена, чакаюць сігнала горна.

23-VII. Арганізоўваецца спецыяльнае санітарнае звяно з прадстаўнікоў розных палат, якое інструктуецца ўрачом і выпрацоўвае план далейшай работы. *) Астатнія дзеці па звенням вядуць заняткі па розным гурткам: фізкультурнаму літаратурнаму, авіягуртку, натуралістычнаму, музыкальнаму.

25-VII. Дысцыпліна за сталом праводзіцца шляхам спаборніцтва паміж атрадамі і звеннямі; вучот падтрымання дысцыпліны вядзецца важатымі.

27-VII. Пасля першага снедання ўсе звенні, акрамя асабліва слабых, накіроўваюцца ў калгаснае поле падбіраць калоссі. Дзецям растлумачылі значэнне гэтай справы. Дзеці ішлі радасна і з вялікай ахвотай. Звенням і атрадам былі выдзелены участкі. Пасля 10-ці мінутнай работы даваліся карэгіруючыя рухі з наступным двухмінутным адпачынкам. Работалі 45 мінут (не лічачы ўказаных перапынкаў), сабралі 5 кіло чыстага зярна. Пасля работы піонеры заслухалі прывітанне прадстаўніка, члена праўлення калгаса. Вясёлыя, са спевамі, яны пайшлі назад... Пасля чаю гутарка ўрача аб рэжыме дня.

30-VII. Да другога снедання ішло прыбіранне ложкаў тумбачак пры іх. Са звеннямі з аслабаненых дзяцей праводзілася чытка газет. Іншыя работалі ў гуртку юных натуралістаў, праводзячы пасадку кветак па клумбам... Пасля вячэрняга чаю шла гутарка па звенням аб паходзе чэлюскінцаў. Потым дзеці рыхтаваліся да вечара самадзейнасці.

Кароткія вынікі даюць толькі беглы агляд некаторых характэрных момантаў жыцця лагера.

У другой палове першай змены мы мелі вялікі перелом у рабоце лагера. Мы ўстранілі некаторую нячоткасць у рабоце лагера, і гэта мела значны ўплыў на якасць працы і на ўвесь уклад лагернага жыцця. Мы з першага дня работы лагера прыдалі асаблівую ўвагу і шчыра вывучалі

*) Санзвенні цяпер не практыкуюцца.

эфектыўнасць работы лагера. Пры гэтым эфектыўнасць вывучалась не на адных крывых вагі, а на комплексе энергетычных паказацеляў, якія ўсе сумесна з'яўляюцца сапраўдным крытэрыем папраўкі здароўя дзіцяці. Гэты комплекс у нас складаўся з:

1. Антрапамятрычных вымярэнняў з ўстанаўленнемаднойчы даследуемага дзіцяці к „М", сярэднему паказальніку яго роста, вагі, акружнасці грудзі. Значыцца, суджэнне аб прыбаўцы ў вазе было пад кутом зроку яго набліжэння да „М". Прадстаўляем табліцу прыбаўкі вагі ў дзяцей першай і другой змены, у залежнасці ад іх адносін да „М". З гэтых лічбаў відаць, што самыя вялікія прыбаўкі, як і належыла чакаць, былі ў дзяцей, у якіх вага была ніжэй нормы, або прыбліжалася да нормы. Вельмі слаба прыбывалі у вазе дзеці, у якіх наяўная вага правышала норму.

*Табліца № 4*

Крывая вагі ў дзяцей.

| | Колькасць дзяцей | | Атрыман. сярэдн. прыбаўка | |
|---|---|---|---|---|
| | Першая змена | Другая змена | Першая змена | Другая змена |
| Ніжэй нормы . . . | 67 | 75 | 796 гр. | 1321 гр. |
| Роўная норме . . . | 39 | 53 | 750 „ | 1211 „ |
| Вышэй нормы . . . | 20 | 15 | 330 „ | 366 „ |
| Без прыбаўкі (астатнія) . . . | 37 | 7 | — | — |

*Табліца № 5.*

Прыбаўка проц. гемаглабіна ў абодвух зменах па ўзростам

| Узрост | Процанты | Заўвага |
|---|---|---|
| 8 | 4,4 | |
| 9 | 4,3 | |
| 10 | 4,53 | |
| 11 | 5,68 | |
| 12 | 4,36 | |

Другім і астатнім паказальнікам папраўкі мы бярэм падвышанне проц. гемаглабіна ў крыві, які безумоўна з'яўляецца точным якасным паказальнікам уне залежнасці ад канстытуцыянальных асаблівасцей данага дзіцяці.

*Табліца № 6.*

Крывая гемаглабіна.

| Колькасць дзяцей | | Павышэнне гемаглабіна | |
|---|---|---|---|
| Першая змена | Другая змена | Першая змена | Другая змена |
| 26 | 32 | Да 3 проц. | Да 3 проц. |
| 35 | 42 | „ 5 „ | „ 5 „ |
| 36 | 37 | „ 7 „ | „ 5 „ |
| 26 | 19 | „ 10 „ | „ 10 „ |
| 4 | 9 | вышэй 10 проц. | вышэй 10 проц. |
| 26 | 21 | без змен | без змен |

Неабходна ўказаць, што павышэнне проц. гемаглабіна дзе далёка не паралельна падвышэнню вагі. У нас маецца значная колькасць выпадкаў, калі дзеці не прыбывалі ў вазе, а між тым проц. гемаглабіна падвысіўся да 10-11 проц. і былі выпадкі ўбылі ў вазе з прыбаўкай проц. гемаглабіна. Мы наглядалі таксама значную прыбыль у вазе з нязначнай прыбыллю ў проц. гемаглабіна. (табліца № 7, глядзі на старонцы 18).

Даная табліца дыспрапорцыі паміж вагай і гемаглабінам у некаторых дзяцей даказвае, наколькі непераканальна заключэнне аб прыбаўцы дзіцяці па адной толькі вазе. Мы ведаем, што у гіпотырэоідных дзяцей убыль у вазе альбо вага незмяненая ні ў якім разе не адмоўнае, а хутчэй дадатковае з'явішча. Тое-ж самае магчыма сказаць аб некаторых лімфатыках, у якіх прыбыль у вазе часта не спалучаецца з паляпшэннем здароўя. Мы лічым, што паказальнік падвышэння проц. гемаглабіна ў дзяцей з'яўляецца больш дадатным эфектам папраўкі, чым прыбаўка вагі. Супаданне гэтых 2-х фактараў сумесна мы безумоўна павінны лічыць дадатным.

*Табліца № 7.*

**Характэрныя прыклады дыспрапорцыі паміж прыбаўкай у вазе і павышэннем % гемаглабіна**

| №№ па пар. | Прозвішча і імя | Пол | Узрост | Прыбаўка у вазе | Прыбаўка гемаглабіна у проц. | Прыбаўка спірамeтр. у см. | Прыбаўка дынаматры: прав. | Прыбаўка дынаматры: лев. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Ів. З. . . . . . | Дзяўч. | 8 | — | 10 | 100 | 2 | — |
| 2 | Цыр. В. . . . | „ | 11 | — | 15 | 200 | 4 | 2 |
| 3 | Доб. В. . . . . | „ | 10 | 1900 | 1 | — | — | — |
| 4 | Зав. Г. . . . . . | хлопчык | 8 | 1500 | — | 80 | 2 | 2 |
| 3 | Лев. М. . . . . . | „ | 10 | 1300 | 10 | 160 | 2 | 1 |
| 6 | Гн. Л. . . . . . | Дзяўч. | 9 | 600 | 6 | 160 | 2 | — |
| 7 | Хав. М. . . . . . | Хлопч. | 10 | 600 | 7 | 200 | 4 | 4 |
| 8 | Грін. Л. . . . . | „ | 9 | 100 | 10 | — | 5 | — |
| 9 | Пав. М. . . . . | Дзяўч. | 12 | 2600 | 3 | 100 | 3 | 1 |
| 10 | Гроз. М. . . . . | Хлопч. | 13 | 800 | 8 | 240 | 3 | 2 |
| 11 | Пер. М. . . . | Дзяўч. | 8 | 1800 | 1 | 140 | — | 1 |
| 12 | Сев. А. . . . . . | „ | 11 | 3000 | 6 | 120 | 2 | 3 |

3. Трэцім паказальнікам для нас з'яўляецца спіраметрыя і дынамаметрыя, пры чым мы лічым, што гэты паказчык, акрамя аснаўных біалагічных маментаў, яшчэ ў значнай ступені залежыць ад работы выкладчыка па фізвыху і ад добрага і частага практыкавання дзіцяці на гэтых апаратах. Пагэтаму мы раім праводзіць кожную дэкаду, нараўне з праверкай вагі, праверку спіраметрыі і дынамаметрыі.

*Табліца № 8.*

**Спіраметрыя і дынамаметрыя па зменам**

| | Першая змена | Другая змена |
|---|---|---|
| Праверана выпадкаў . . . . . . . | 59 | 98 |
| Сярэдняя прыб. прав. рукі . . . . | 1,8 | 2,8 |
| „ „ левай „ . . . . . . | 1,6 | 2,0 |

**Спіраметрыя.**

| | Першая змена | Другая змена |
|---|---|---|
| Праверана выпадкаў . . . . . . | 98 | 84 |
| Сярэдняя прыбаўка . . . . . . | 156,7 | 157 |

4. Колер скуры, яе гладкасць і ўпругасць, ступень загара, падскураны слой тлушчы з'яўляецца чацьвертым фактарам добрай папраўкі. Гэты фактар, па нашым наглядданням, як раз ідзе паралельна падвышэнню проц. гемаглабіна.

5. Настрой дзіцяці, яго ўвага, працаздольнасць, замест яго звычайнай раздражлівасці і капрызаў, яго вяселы, жыццярадасны смех, замест звычайнай нуды, з'яўляюцца безумоўна адным з магутных паказальнікаў добрага адпачынка. Мы адзначаем, што к канцу змены ўвесь калектыў альбо, у крайнім выпадку 95 проц. яго, паступова пературарыўся. Варта іх нагледаць у час масавай гадзіны: любы жарт выклікае бурны беспрычынны смех, любое, часта малаудачнае выступленне, вызывае поўную зацікаўленнасць і вялікае захапленне дзяцей. Гэтыя нагляданні мы і важатыя павінны рабіць і правадзіць фактычна не на прыёме ў амбулаторыі, а паўсядзена на пляцоўцы, на двары і ў лесе.

6. Супакаенне частаты пульса і колькасці дыханняў у мінуту, іх большая ўстойлівасць у час лёгкіх напружанняў мае значную вагу пры добрай папраўцы дзяцей. Па нашым нагляданням, на першай змене мы мелі ў многіх дзяцей зніжэнне частаты пульса на 5—10 udараў у мінуту, дыханняў на 2—3 удары ў мінуту. На 2-ой змене мы наглядалі такую жа карціну.

7. Само сабой зразумела, што знікненне скаргаў на галаўную боль, кашаль, балі жывата, з'яўляецца ў значнай меры паказальнікам добрага самаадчування дзіцяці.

8. І ўрэшце, нашы заключэнні па нагляданням за сэрцам, лёгкім, страўнікава-кішэчным трактам з'яўляюцца часта падставай для суджэння аб добрай альбо слабай папраўцы дзіцяці.

Я з вызначанай мэтай так падрабязна застанавіўся на якасных паказчыках, бо меў на ўвазе, што пры апрацоўцы матэрыяла на месцах у час заканчвання працы карысна ўлічыць наш вопыт і скарыстаць яго пры суджэнні аб папраўцы дзяцей.

Пытанне аб ролі ўрача ў санаторным лагеры неабходна выпяціць таму, што мы часта нерацыянальна эканомім іменна на ўрачэбнай сіле і няправільна яе скарыстоўваем. Наш стары спор, хто павінен стаяць на чале лагера, і на сеняшні дзень застаецца не вырашаным таму, што ў адзін год не паявіцца ў нас кадр урачоў, які бы мог уладаць і гаспадарча-адміністрацыйнымі здольнасцямі і ўрачэбнымі пазнаннямі і быў бы блізак да піонерпрацы. Нават, калі гэткі ўрач і знайшоўся бы, перад намі стаяла бы дылема знайсці яшчэ аднаго ўрача для выканання паўсядзенных медычных абавязкаў. На сеняшні дзень нам важна зафіксаваць старую ісціну, што ўрач з'ўляецца цэнтральнай фігурай у санаторным лагеры, і вакол яго дзейнасці цэнтруецца ўсе жыццё гэтага лагера, усе пытанні гаспадарчыя, адміністрацыйныя, педагагічна-выхаваўчыя, медыкапрафілактычныя, у тым ліку і санітарныя—усе накіраваны сваей канечнай мэтай да аздараўлення аслабленых піонераў, школьнікаў, значыцца, усе бакі гэтага аздараўлення іменна рэгулююцца ўрачом. Адсюль становіцца ясным той непасрэдны кантакт, які павінен існаваць паміж урачом і кухней і гаспадарчым персаналам. Калі ў лагернага ўрача

маецца такое многаабразіе розных заняткаў, асабліва у буйных лагерах, падобных нашаму лагеру, тады ўзнікае пытанне аб ураче-памочніку па медыка-санітарнай рабоце альбо аб галоўураче на некалькі кропок.

Фактычна мы з абслугоўваючым урачом часта дзялілі некаторыя абавязкі, і мне часта прыходзілася кансульціраваць, бо для больш паглыбленай работы патрабуецца самая сталая дапамога. Тое-ж самае трэба сказаць і аб сестрах: адна сястра рэдка мае магчымасць выканаць усе віды медыдапамогі, якія санаторны лагер ад яе патрабуе. Мы не павінны забываць, што ў нашых умовах, пры адсутнасці шэрага іншых дзіцячых устаноў—лагеру прыходзіцца абслугоўваць не толькі слабых, але і хворых дзяцей.

Выхаваўчы персанал у асобе піонер-працаўніка поўнасцю забяспечвае комуністычнае выхаванне дзяцей: пры добрасумленай і адданай працы, яны даюць дзецям вяселле, радасць, але яны часта застаюцца ў тупіку перад непасільнай задачай—слабае дзіця, нервовае дзіця, узбуджанае дзіця.

Непасрэднае кіраўніцтва, калі не метадыста, дык па крайней меры, вопытнога педагога, з'яўляецца зусім неабходным мерапрыемствам. Дзейнасць піонер-важатага павінна быць узгоднена з урачом. А часта мы маем з практыкі цэлы шэраг непаразуменняў, аб чым указвалі нашыя кіраўнікі, мы самі, бацькі. Наркамздраў сумесна з ЦК ЛКСМБ павінны рыхтаваць свае кадры важатых больш кваліфікаваных, больш вопытных, ўладаючых падыходам да слабага, часам капрызнага дзіцяці. На чале лагера, калі няма вопытнага ўрача, неабходна паставіць добрага выхавацеля, комуніста педагога і выпрабаванага кіраўніка дзіцячай установы. Толькі ў гэтым выпадку мы зможам быць спакойны, што справа аздараўлення аслабленага дзяцінства знаходзіцца ў верных руках.

На вопыце санаторнага лагера імя тов. Чэрвякова мы можам зрабіць ніжэйпаказаныя вывады:

1. Камплектаванне санаторных лагераў вызначанымі ўзростнымі групамі ў значнай ступені рацыяналізуе медыка-выхаваўчую работу лагера.

2. Разбіўка дзяцей па атрадам і звенням у залежнасці ад становішча іх здароўя дае магчымасць дыферэнцыраванага падыхода да аслабленага дзіцяці, забяспечвае ў значнай ступені яго якаснае абслугоўванне.

3. Медыка-прафілактычная работа ў санаторным лагеры з'яўляецца сцержневай ва ўсім жыцці лагера, і медыка-санітарныя заданні з'яўляюцца вядучымі, як у выхаваўчым, так і ў аздаравіцельным працесе.

4. Педагогі, важатыя актыўна ўдзельнічаюць у аздаравіцельнай рабоце, унядраюць санітарна-гігіенічныя навыкі, будуюць сваю выхаваўчую работу ў кантакце з урачом і ў цеснай залежнасці з яго данымі адносна становішча здароўя дзяцей.

5. Работа важатых, як і ўвесь рэжым, за выключэннем масавых гадзін, вядзецца шчыра па атрадам і звенням.

6. Работа важатага ў санаторным лагеры, у звязку з дыферэнцыраваным падыходам, патрабуе вялікай падрыхтоўкі і большай кваліфікацыі ў галіне педолага-педагічнага падыхода да ўсей работы.

7. Дзеці неўрапаты патрабуюць да сябе асаблівай увагі. Санаторны лагер слаба іх выраўнівае. Для іх павінен стварацца паасобны лагер пад асаблівым наглядам педагогаў і ўрача псіханеўралог. Для іх павінен быць выпрацаван спецыяльны рэжым; у праціўным выпадку гэтыя дзеці часта зрываюць усю лагерную работу.

8. Пераключэнне дзяцей на ўсякія віды мастацкіх форм работы складае найлепшыя эмоцыйныя моманты для ўспакаення піонераў, адцягвае іх увагу ад сумавання па дому, стварае падвышаную зацікаўленасць да санаторна-лагернага жыцця і дапамагае дзецям усвоіць ідэі соцыялістычнага будаўніцтва і комуністычнага выхавання.

9. Судзіць аб эфектыўнасці лагера магчыма толькі на аснове ўсяго комплекса папраўкі і энергетычных паказчыкаў,—прыбаўка ў вазе ў яе залежнасці ад набліжэння вагі да нормы і стварэння запаса, падвышэння проц. гемаглабіна, падвышэнне паказчыкаў спіраметрыі і дынамаметрыі, выраўніванне пульса і дыхання, выгляд скуры і плотнасць падскуранога тлушчавага слоя, пад'ём настроя і працаздольнасць дзіцяці, памяншэнне скаргаў на болі, палепшанне ўсяго арганізма дзіцяці на аснове аб'ектыўнага ўражання ўрача.

і 10. Толькі на базе сапраўднага соцспаборніцтва, як паміж лагерамі, так і ўнутры лагера, паміж атрадамі і звеннямі, былі магчымы тыя дасягненні, якія намі адзначаны ў рабоце нашага санаторнага лагера.

---

## Хімічны склад рацыёна санаторнага лагера.

| №№ п/п | Найменне прадуктаў | Грамы | Бялкі | Тлушчы | Вугляводы | Вітам. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Хлеб жытні . . . | 200 | 10,8 | 1,2 | 78 | — |
| 2 | Хлеб белы . . . | 400 | 27,5 | 1,5 | 180,4 | — |
| 3 | Мука пшанічная . . | 20 | 0,7 | — | 12 | — |
| 4 | Мука бульбяная . . | 10 | 0,7 | — | 7 | — |
| 5 | Крупы і бабы . . . | 75 | 6,8 | 1,7 | 43,5 | — |
| 6 | Макароны . . . | 20 | 1,9 | 0,12 | 14,1 | — |
| 7 | Бульба . . . | 400 | 5,3 | 0,7 | 73,8 | — |
| 8 | Гародніна . . . | 250 | 1,6 | 0,4 | 17,3 | ++ |
| 9 | Фрукты і ягады св. . . | 200 | — | — | — | +++ |
| 10 | Маргарын . . . | 15 | 0,04 | 15 | — | — |
| 11 | Масла расл. . . . | 10 | — | 9,5 | — | — |
| 12 | Масла злівачн. . . | 40 | 1,85 | 33 | — | +++ |
| 13 | Цукар . . . | 75 | — | — | 70,1 | — |
| 14 | Мяса і мясн. прадукт. . | 125 | 24,3 | 6,3 | 0,75 | + |
| 15 | Рыба . . . | 150 | 19,5 | 5,9 | 0,9 | — |
| 16 | Тварог, смятана . . . | 30 | 2,6 | 3,6 | 0,38 | + |
| 17 | Малако . . . | 600 | 18,1 | 19,3 | 29,8 | ++ |
| 18 | Яйкі . . . | 1 | 4,1 | 3,9 | 0,18 | +++ |
| 19 | Кандытарскія вырабы . . | 25 | 2,5 | 0,5 | 13 | — |
| | | | 127,3 | 102,6 | 559 | — |

## Нормы прадуктаў харчавання летніх аздаравіцельных установаў

У мэтах палепшання харчавання дзяцей у лагерах санаторных, масавых лагерах і дашкольных здраўніцах нормы мінулага году былі пераглед жаны інстытутам АМД у бок павышэння некаторых найбольш значных для арганізма дзіцяці прадуктаў.

Пры гэтым далучаецца праект норм з іх каларыйным вызначэннем і іх грашовай каштоўнасцю.

| | Санаторны лагер | | Масавы лагер | | Санаторная пляцоўка | | Дашкольн. здраўніца | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Прадукты: | | Прадукты: | | Прадукты: | | Прадукты: | |
| | Грамы | Калор. | Грамы | Калор | Грамы | Калор. | Грамы | Калор. |
| 1. Хлеб жытні. . . | 200 | 404 | 400 | 808 | 200 | 404 | 200 | 404 |
| 3. Хлеб белы . . . | 400 | 904 | 200 | 452 | 250 | 565 | 300 | 678 |
| 2. Мука пшанічн. | 20 | 67 | 20 | 67 | 15 | 45 | 15 | 45 |
| 4. „ бульбян. | 10 | 30 | 10 | 30 | 6 | 18 | 6 | 18 |
| 5. Крупы і бабы. | 75 | 225 | 75 | 225 | 60 | 161 | 60 | 161 |
| 6. Макароны . . . | 20 | 68 | 15 | 51 | 10 | 34 | 15 | 51 |
| 7. Бульба . . . . . | 400 | 252 | 400 | 252 | 200 | 126 | 200 | 126 |
| 8. Гароднiна . . . | 250 | 70 | 250 | 70 | 250 | 70 | 250 | 70 |
| 9. Фрукты і ягады | 200 | 42 | 150 | 30 | 100 | 20 | 100 | 20 |
| 10. Маргарын. . . . | 15 | 112 | 15 | 111 | 10 | 74 | 10 | 74 |
| 11. Масла раслін. . | 10 | 75 | 5 | 75 | 5 | 35 | 5 | 35 |
| 12. „ злівачн. | 40 | 308 | 20 | 102 | 20 | 102 | 20 | 102 |
| 13. Цукар. . . . . . | 75 | 300 | 60 | 240 | 25 | 100 | 50 | 200 |
| 14. Мяса і мясныя прадукты . . . . | 125 | 117 | 100 | 94 | 60 | 55 | 100 | 94 |
| 15. Рыба. . . . . . . | 150 | 66 | 125 | 50 | 75 | 30 | 100 | 40 |
| 16. Тварог. . . . . . | 30 | 126 | 30 | 120 | 30 | 120 | 30 | 120 |
| 17. Малако . . . . . | 600 | 390 | 400 | 260 | 300 | 195 | 400 | 200 |
| 18. Яйкі . . . . . . . | 1 | 50 | 1 | 50 | 0,5 | 25 | 1 | 50 |
| 19. Канд. вырабы. . | 25 | 54 | 20 | 50 | — | — | 10 | — |
| Усяго. | — | 3650 | — | 3045 | — | 2179 | — | 2548 |

Намеснік Дырэктара
Інстытута АМД ЛЕВІН

ЗАЦВЯРДЖАЮ:
Нам. Народнага Камісара
Аховы Здароўя БССР НЕЙШТАДТ

# Зімняя здраўніца.

**Праект распрацован Інстытутам АМД па аддз. АЗД.**

Зімняя здраўніца прадугледжвае дзесяцідзенны зімовы адпачынак ва ўмовах максімальнага скарыстання фізкультуры і зімовага спорта на свежым паветры, таксама і ўсіх іншых відаў аздараўлення для вастанаўлення сіл і бадзерасці пераўтомленаму, нервова аслабленаму школьніку-піонеру, ударніку вучобы.

Зімняя здраўніца мае мэтаю скарыстаць зімовыя канікулы, каб адпаведным рэжымам аздаравіць стомленага, аслабленага школьніка-піонера, і на гэтай падставе дзень размяркоўваецца наступным чынам: 8-30—9—пад'ём, туалет, уборка ложка, 9—9-15 — зарадка; 9-15—10 снеданне; 10—1 —усялякія віды зімняга спорту і гульняў на свежым паветры; 1—1-30—вольны час; 1-30—1-45—падрыхтоўка да абеда; 1-45—2-30—абед; 3—4-30—ціхі час; 5—5-15 —чай; 5-15—7-15 —клубныя заняткі, грамадска-карысная праца; 7-15—7-45—вячэра; 8—10 —культурны адпачынак: лекцыі, чытанкі, кіно, тэатр, самадзейнасць, скокі, гульні настольныя; 10—10-15— легкая закуска; 10-15—10-30—падрыхтоўка да сна; 10-30—сон.

**Фізкультура.** Віды фізкультуры, праводзімыя ў здраўніцы: канькі, лыжы, катанне з гор, хакей, валейбол, прагулкі-эстафеты, фіззарадка, падрыхтоўка на ГТО па зімовым заданням.

Харчаванне разлічана на 3500-4000 калорый, 5 раз на дзень, сезоннае з перавагай бялкоў і жыру для кампенсацый страты цеплаты. Снеданне абавязкова заўсёды з 2-3 блюд. Мы прапускаем другое снеданне з мэтаю даць больш днеўных гадзін для правядзення на свежым паветры. Абед з 3-х блюд, вячэра з 2-х блюд. Лёгкая закуска перад сном—стакан малака з булачкай, або з пячэннем.

| | |
|---|---|
| Бялкоў | 100×4= 404; |
| Тлустаў | 120×9=1080; |
| Углеводаў | 600×4—2460=3950. |

| **Нормы:** | |
|---|---|
| Хлеб ржаны | 200 |
| „ белы | 400 |
| Мука пшанічная | 20 |
| „ картофельная | 10 |
| КРУПА: бабы (гарох, фасоль) | 75 |
| Рыс або манна | 10 |
| Макароны | 20 |
| Бульба | 400 |
| Гарод.: бруква, бурач., маркоў | 250 |
| Яблыкі свежыя | 200 |
| Цукар | 75 |
| Маргарын | 15 |
| Масла раслíннае | 10 |
| „ слівачнае | 40 |
| Мяса і мясныя прадукты | 150 |
| Рыба | 150 |
| Малако | 500 |
| Тварог—сыр белы | 30 |
| Сыр галандскі | 15 |
| Яйкі | 1 |
| Сухі кампот | 20 |
| Змешаны | 10 |

**Прыкладнае меню на дзень:**

СНЕДАННЕ:

Мясная катлета або жараная рыба з бульбяным гарнірам.

Манная або ячневая каша, хлеб з маслам, чай.

АБЕД:

Боршч або суп, бэфстроганы, катлет-рулет або шніцэль, гуляж з гарнірам з кашы, кампот, або кісель.

ЧАЙ з булачкай або пячэннем, яблыкі.

ВЯЧЭРА;

Запяканка з гародніны, макарон, бульбяная, амлет, кампот, кісель, кофе з піражком.

Малако з булачкай або пячэннем.

**Камлектаванне:** Зімняя здраўніца камплектуецца вучнямі 11-15 год з нервова-стамленых, анемічных (анемія), ударнікаў вучобы ў школе. Кожны высунуты ўрачом кандыдат узгадняецца з дырэктарам школы і піонер-комсамольскім прадстаўніком. Супроцьпаказанні: хваробы сэрца, лёгкіх са зменай у $T^0$, рэзкая анемічнасць і значны ўпадак пітання, псіха-нервовыя захворванні і г. д.

**Штаты (улічаны на 50 дзяцей).**

| Пасада | Колькасць |
|---|---|
| Загадчык урач | 1 |
| Фізкультурмасав. | $1^1/_2$ |
| Педагог па ўнешкольн. працы | $1^1/_2$ |
| Медсястра | 1 |
| Заг. гаспадаркай, ён жа кладаўшчык | 1 |
| Повар | $1^1/_4$ |
| Рабочы на кухне | 1 |
| Прыбіральшчыца | 1 |
| Афіцыянткі | 2 |
| Прачка | $^1/_2$ |
| Вартаўнік | $^1/_2$ |

## ДАДАТАК.

Акрамя 10-цідзённай здраўніцы ў некаторых раёнах павінны існаваць здраўніцы з аднадзенным адпачынкам.

Вучань, з'яўляяся ў здраўніцу ў 8-45 зранку, праводзіць зарадку, мыецца і чысціць зубы да 9-15; у 9-15 снедае і весь дзень праводзіць такім жа парадкам, як у першым варыянце.

Вячэра ў аднадзеннай здраўніцы больш уплатнёная, маючы на ўвазе пропуск 5-га харчавання. Да вячэры дадаецца малако з пячэннем, кампот, або фрукты, у залежнасці ад зместа яе. Пасля вячэры культурны адпачынак праводзіцца па праграме першага варыянта, пасля чаго дзеці ўходзяць дамой. Вучні дальніх раёнаў адпускаюцца на 15--30 мінут раней.

Паказанні і супроцьпаказанні да прыёму астаюцца гэтыя-ж. Дзеці застаюцца толькі адзін дзень; па паказанням урача, некаторыя з іх могуць атрымаць некалькі дзён.

Абслугоўваючы штат павялічваецца на 1/2 адзінкі. Бялізна ложак для ціхай гадзіны кожны дзень мяняецца; павінны быць прыняты ўсе захады, каб небыло заўшыўленасці, шляхам душаў, свежай бялізны, папярэднім аглядам вучняў і г. д.

# Справаздача аб рабоце дашкольнай здраўніцы.

## ГОМЕЛЬ.

Загадчык урач **П. М. Големба.**

Дзіцячая здраўніца знаходзіцца у 3-х вярстах ад Гомеля ў сасновым лясу. У бягучым 1934 г. яна была адчынена з 4/VI па 28/VIII. За гэты час было прапушчана ў 3 скліканні 127 школьнікаў і 199 дашкалят—усяго 326 чалавек узростам ад 5-10 год уключна. Па полу было 164 дзяўчынак і 162 хлопчыкаў. Па соцыяльнаму становішчу—дзяцей рабочых 72 проц., служачых 16 проц., спецыялістаў—5 проц., вучняў—3 проц., дзяцей—пенсіянераў—2 проц., сампрамкаапераці—2 проц.

Паступілі ў здраўніцу дзеці са школ і дзіцячых садоў па адбору ўрачоў АЗД.

У бягучым годзе быў вытваран у пяршыню вопыт адпраўкі ў лес малодшых школьнікаў з 0—1 і 2 груп. Да гэтага часу гэтыя дзеці заставаліся на ўсё лета ў горадзе і накіроўваліся толькі на пляцоўку і ў дзенны санаторый.

Прымаючы пад увагу, што сярод малодшых школьнікаў маецца шмат дзяцей, патрабуючых прабывання ў сасновым лясу (з бранхітам, тубінтаксікацыяй і г. д.) дзіцячы дыспансер рашыў накіраваць іх у здраўніцу, дзе маючыяся ўмовы (абсталяванне, вялікі штат) давалі магчымасць забяспечыць дзецям тыя догляды і ўвагу, якіх яны па свайму ўзросту патрабавалі.

Пры прыеме дзеці аглядваліся прафілактычна урачом, потым іх стрыглі, мылі ў ванным пакоі пад гарачым душам і пераадзявалі. Рэчы дзяцей аддаваліся радным, заставаўляўся толькі абутак і пальто. Дзіцячыя спальні былі таксама поўнасцю абсталяваны: жалезны ложак з матрацам, прастыня, падушка і фланелевая коўдра з падкоўдраю. Пасцельная бялізна змянялася кожную дэкаду, насільная—раз у 5-цідзёнку і таксама кожны раз па меры неабходнасці. Раз у 5-цідзёнку дзяцей мылі пад гарачым душам.

Змяшчаліся дзеці ў 2-х бараках, дашкаляты паасобна ад школьнікаў. Дашкаляты жыхарствавалі ў бараку, спецыяльна прыстасаваным для здраўніцы з 3-мя вялікімі

сонечнымі спальнямі і прасторнай іґралкай і верандай. Школьнікі-ж—у 8 невялікіх пакоях заарандаванага барака комунальных дач, вокны якіх выходзілі на веранду, з прычыны чаго ў пакоях было недастаткова светла. Іґралкі школьнікі таксама не мелі, і ў дрэннае паветра прымушаны былі заставацца па спальням.

Кухня знаходзілася па блізасці ў асобным памяшканні.

Усе дзеці былі разбіты на групы:—3—дашкольных па 24 чал. у кожнай і 1 школьная, лік дзяцей у якой у першае скліканне было 32, а ў другое і трэцяе ў парадку перавыканання плана дайшло да 43. Да груп былі прымацаваны спецыяльна падабраныя педагогі—ударнікі з 0 і 1 груп, усяго 8 чалавек; яны працавалі пазменна з раніцы да мёртвай гадзіны і з мёртвай гадзіны да ўкладвання на ноч. Уначы дашкалят абслугоўвалі начныя няні. Са школьнікамі-ж у суседных пакоях спалі педагогі.

Рэжым дня быў наступны:

8 гадзін—пад'ём.

8—8 з пал.—фіззарадка, умыванне.

8 з пал.—9—снеданне,

9—11 з пал.—арганізаваныя гульні, чытанне,

11 з пал—13—сонечныя ванны, душ.

13—13 з пал.—абед,

13 з пал.—14—прыгатаванне да мёртвага часа, мыцце ног,

14—15 з пал.—мёртвая гадзіна,

15 з пал.—16—пад'ём, мыцце рук,

16—16 з пал.—палуднік,

16 з пал.—19—прагулка ў лес, вольныя гульні,

19—19 з пал.—падрыхтоўка да вячэры, мыццё рук,

19 з пал.—20—вячэра,

20—21—падрыхтоўка да сна, мыцце дзяцей,

21—сон.

Школьнікі пачыналі рыхтавацца да сна з 21 з пал. да 22 г. Сон у 22 гадзіны.

З дзецьмі праводзіліся штодзённыя прагулкі ў лес за кветкамі, ягадамі, грыбамі, частыя прыродазнаўчыя экскурсіі. Прапрацоўваліся тэмы: аб чэлюскінцах, аб уборцы ураджая, аб аслабаненні Беларусі ад белапалякаў, аб падрыхтоўцы да школьнай вучобы. Былі вывучаны новыя спевы: „Павел Марозак", „Вартаўнік ураджая", „Дальнеўсточная" і г. д. Прачытана і разабрана многа кніг—у іх ліку „Павет", „Пушчыстае золата", „Прыключэнні барона Мюнхгаўзена."

У пачатку кожнага склікання праводзіліся арганізацыйныя сходы, у заключэнні кастры з выступленнямі і прэміроўкай лепшых ударнікаў. Выпушчана 3 насценгазеты. Праведзена рад гутарак санітарна-гігіенічнага характара:

аб неабходнасці фіззарадкі, значэнні мёртвай гадзіны, аб асабістай гігіене, гігіене жылля, пасцелі.

Распрацаваны цэлы рад навыкаў: чыстка зубоў, паласканне рота пасля яды, мыцце ног перад сном, карыстанне насавой хусткай, правілы яды, сна, правілы наведвання прыбіральні.

Харчаваліся дзеці 4 разы ў дзень, кожнае харчаванне з 2-х страў, абед з 3-х. У прамежку між снеданнем і абедам атрымоўвалі фрукты, пячэнне, хлеб з маслам.

Каларыйнасць дзеннага харчавання была ў сярэднім 2.800 калорый, даходзячы ў паасобныя дні да 3.200. Дзеці атрымоўвалі ў сярэднім 400 гр. хлеба, 40 гр. масла, амаль кожны дзень 100 гр. мяса, булку. Мала атрымоўвалі малака, большай часткай з кавай або супам. Мала елі яек—прыблізна 1 раз у пяцідзёнку. Фруктаў і ягад мелі не ўпаўне дастаткова, гародніны дастаткова. Страва хоць па каларыйнасці была дастаткова і сытна, але па істотнасці поўнацэннай не з'яўлялася, бо дзеці мелі малую колькасць поўнацэнных бялкоў. Кожную дэкаду дзяцей важылі, аглядвалі прафілактычна. Медагляд праводзіўся дважды—у пачатку і канцы кожнага склікання; слабым дзецям змяралася сістэматычна тэмпература. Перад ядой дзеці, па прызначэнню ўрача, атрымоўвалі „жалеза". У добрае паветра рабіліся сонечныя ванны, пасля іх халодныя абліванні пад душам і кабінцы ва двары.

У выпадку захворвання дзеці ізаляваліся ў пакой з паасобным ходам, служыўшы таксама габінетам урача. Усяго за 3 скліканні захварэла 29 дзяцей—ложкадзен 82. Цяжкіх інфекцыйных захворванняў не было, галоўным чынам дзеці хварэлі ангінай, бранхітам, гастроэнтэрытамі, гастрытамі. Было 2 выпадкі малярыі.

Прыбаўка дзяцей і вага ў сярэднім—1 кіло 200 гр. для дашкольніка, 1 кіло 400 гр. для школьніка. Максімальная прыбаўка ў дашкольніка 2 кіло 500 гр., у школьніка 3 кіло 500 грамм. Самую дрэнную прыбаўку ў ваге дало 1-е скліканне: дрэннае паветра, арганізацыйны перыяд; найлепшую—3 скліканне. Кожнае скліканне працягвалася 28 дзён з прамежкай у 2 дні між скліканнямі для ўборкі і дэзінфекцыі памяшкання.

З усей колькасці дзяцей добра паправілася 63 проц., сярэдня—30 проц., 7 проц.—не паправілася—засталася бледнасць скуры, слізістых, не прайшоў бранхіт. Галоўным чынам гэтыя дзеці адносяцца да дзяцей рэзка аслабленых з хранічнай тубінтоксікацыяй, маючых патрэбу у спецыяльным санаторным лячэнні.

Бацькам дазвалялася наведваць дзяцей 1 раз у пяцідзёнку ў вызначаныя дні, але яны правілы не выконвалі і прыходзілі, калі хацелі, тлумачачы гэтае рознымі выходнымі дня-

мі і інш. прычынамі. У памяшканне здраўніцы бацькоў не пускалі і яны выклікалі дзяцей за агарожу, спрасіўшы дазволу выхавацельніц. Наведванне бацькоў, асабліва ў пачатку склікання, нервавала дзяцей, таксама яны пераядаліся прынасімымі саладасцямі і неахвотна елі потым за сталом. Зачастую пасля адхода бацькоў, у дзяцей падвышалася Т° і бывала ірвота на страўнікавай глебе.

Выпадкаў адсева сярод дзяцей амаль што не было: 1 дзіценак 5-ці год, сын добра забяспечанага служачага, маючы ка даму індывідуальны нагляд, быў адаслан назад к бацькам, бо на працягу тыдня плакаў, нічога не еў за сталом, і вельмі сумаваў.

У большасці-ж нават дзеці з пачатку неахвотна ідучыя ў здраўніцу, у далейшым прывыкалі, спакойна расставаліся з бацькамі і прасілі заставіць іх на 2-е скліканне.

---

# Загад НКАЗ Бел

## аб летняй аздаравіцельнай кампаніі на 1935 г.

Народны Камісарыят Ахованы Здароўя па БССР загадвае: зацвердзіць наступны план аздаравіцельных мерапрыемстваў на 1935 г.

1. Па сістэме НКАЗ ахапіць санаторнымі лагерамі 4000 дзяцей, з іх 750 дзяцей з сельска-гаспадарчага сектара (дзеці калгаснікаў, работнікаў МТС, соўгасаў).

Размеркаванне месц па санаторным лагерам для асобных гарадоў наступнае:

| | | |
|---|---|---|
| Менск | за сезон | — 800 дзяц. |
| Віцебск | „ | — 500 „ |
| Гомель | „ | — 800 „ |
| Барысаў | „ | — 400 „ |
| Бабруйск | „ | — 300 „ |
| Магілеў | „ | — 400 „ |
| Орша | „ | — 300 „ |
| Мазыр | „ | — 150 „ |
| Рэчыца | „ | — 200 „ |

**Менск**—Усебеларускі лагер для псіханеўроцікаў—150 дз.

2. Па сістэме НКАЗ ахапіць санаторнымі туб. пляцоўкамі 2000 дзяцей з наступным размеркаваннем па гарадах:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Менск | — 400 месц | 8. Мазыр — | — 60 |
| 2. Віцебск | — 300 „ | 9. Рэчыца— | — 90 |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 3. Гомель | — 380 „ | 10. Слуцк — | — 90 |
| 4. Барысаў | — 180 „ | 11. Полацк | — 60 |
| 5. Бабруйск | — 120 „ | 12. Шклоў— | — 60 |
| 6. Магілеў | — 150 „ | 13. Дзяржынск | — 50 |
| 7. Орша | — 60 „ | | |
| | | УСЯГО: | 2000 |

3. Па сістэме НКАЗ ахапіць дашкольнымі здраўніцамі 1000 дзяцей па наступным гарадам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Менск | — 300 дзяцей | 3. Магілеў | — 250 дзяц. |
| 2. Гомель | — 300 „ | 4. Бабруйск | — 150 „ |

4. Устанавіць агульную суму выдаткаў на правядзенне вышэйпаказаных мерапрыемстваў па НКАЗ—1.000.000 руб.

5. Устанавіць аплату з боку бацькоў і камсодаў школ 30 проц. агульнага кошту месца ў санаторным лагеры, 35 проц. агульнага кошту месца ў дашкольнай здраўніцы і 40 агульнага кошту месца ў санаторнай пляцоўцы.

6. Тэрмін прабывання дзяцей ва аздаравіцельнай установе наступны: 40 дзён у санаторных лагерах, 28 дзён у санаторнай пляцоўцы і 30 дзён—у дашкольнай здраўніцы. За летні перыяд устанаўляецца 2 змены для санаторнага лагера, 3 змены—для дашкольнай здраўніцы і санаторнай туб. пляцоўкі.

7. Акрамя гэтага, прапануецца ўсім Горрайздравам забяспечыць ўрачэбным кантролем і мед. абслугоўваннем усе масавыя лагеры, пляцоўкі і летнія дачы для дзяцей дзіцячых дамоў і садоў, турыстычныя мерапрыемствы, якія праводзяцца па іншым наркаматам і арганізацыям.

8. Прыняць да ведама, што за ЦК ЛКСМБ застаецца кантроль і кіраўніцтва ўсёй палітычна-выхаваўчай працай у лагерах, а таксама забяспечанне іх начальнікамі і піонерважатымі.

9. Прапануецца горрайздравам зараз-жа разгарнуць падрыхтоўчую працу па аздаравіцельнай кампаніі 1935 года.

**Нарком аховы здароўя СУРТА.**

15 лютага 1935 г.
г. Менск.